# ШЧАСЦЕ ХОДЗІЦЬ
## толькі ў пары з горам

*Афарыстычныя радкі*
*з паэтычных твораў Ніла Гілевіча*

*Асмакаваў і выбраў Яўген Стасевіч*



Мінск
«Кнігазбор»
2014

## Ад складальніка

Паводле слоўніка, афарызм — думка, выказаная ў лаканічнай і выразнай форме, якая мае характар самастойнага выслоўя.

Шырока вядомыя афарызмы класікаў літаратуры:

А. Пушкіна («Мы почитаем всех нулями, а единицами себя»);

Я. Купалы («Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі»);

Я. Коласа («Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся? — Паскудства, брат, і не пытайся»);

М. Багдановіча («Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня»).

У беларускай літаратуры другой паловы XX стагоддзя, на нашу думку, асаблівым багаццем афарыстычных радкоў вызначаецца творчасць народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, які ўсё сваё свядомае жыццё прысвяціў служэнню роднай літаратуры.

Гаворачы пра творчасць Ніла Гілевіча, патрэбна адзначыць, што паэт у кожным сваім творы выявіў любоў, пяшчоту і клопат аб лёсе Беларусі. Гэтыя шчырыя пачуцці праходзяць праз усе творы Ніла Сымонавіча. Паэт глыбока перажывае няўдачы, упушчаныя магчымасці, нявырашаныя праблемы і іншыя з'явы жыцця.

У яго творчасці адлюстроўваюцца багатыя традыцыі і мудрасць беларускага народа, якія ён увасобіў на старонках сваіх твораў. На сённяшні дзень выйшлі ў свет 23 тамы паэзіі, прозы, драматургіі, сатыры і гумару, публіцыстыкі, фалькларыстыкі, літаратуразнаўства і крытыкі, якія ён, дарэчы, выдаў за

сваю сціплую пенсію накладам 50–100 экзэмпляраў (у дзяржавы на гэта грошай не знайшлося).

У кожным жанры, безумоўна, ёсць афарыстычныя выказванні. Мы адабралі толькі тое, што нам найбольш даспадобы з паэтычных твораў народнага паэта. А колькі ж яшчэ засталося ў іншых жанрах!

Сорак гадоў людзі па ўсёй Беларусі (часта не ведаючы аўтара) паўтараюць:

Быў час, быў век, была эпоха.
Дойдзем, дойдзем мы да Беларусі.
Абясхрысціліся людзі, абязбожыўся народ.
Народ не гоніцца за смакам!
Народ на градусы глядзіць!

Веданне і ўжыванне афарызмаў заўсёды лічылася добрай прыкметай. Будучы прыхільнікам таленту Ніла Гілевіча, я вырашыў скласці гэты зборнік. Спадзяюся, што мая праца чытача зацікавіць.

*Яўген Стасевіч*

✣ ✣ ✣

Табе — павек не будзе веры.
Не спадзявайся. Не чакай.
Ты ўпотай молішся хімеры,
А мне мой Бог — Бацькоўскі край.

*«Не падбівай. Не падбухторвай...», 1990*

✣ ✣ ✣

Спявайце, помнячы нязменна:
Пакуль паэты будуць пець —
Не быць Радзіме безыменнай,
Зямлі бацькоў — не анямець!

*«Спявайце, юныя паэты...», 1965*

✣ ✣ ✣

Не адракаўся і не адракуся!
Запомніце: пярэваратнем я
Павек не скінуся. Душа мая
І ў небе будзе трызніць Беларуссю.

*«Мой кароткі адказ», 1993*

✣ ✣ ✣

У век рэнегацтва
І гібельнай здрады, калі
Зрываюцца душы,
Не справіўшыся з ачмурэннем,
Адзіны ёсць выбар —
Трымацца бацькоўскай зямлі,
Як дрэва карэннем.

*«Пралог», 1991*

✢ ✢ ✢

Калі табе, пясняр, патрэбны ўрокі —
Дык вось адзін: старайся гэтак пець,
Каб дом свой родны песнямі сагрэць —
Тады пачуе іх і свет шырокі.

*«І нашы песні даўнія і скокі...», 1982*

✢ ✢ ✢

Ну што ж!
Я шляху не згублю і ўпрыцем.
Каб час змяніўся — не патрэбны ўказ.
Мой час наперадзе,
Яшчэ ён прыйдзе —
Мой запаветны беларускі час!

*«Мой час», 1995*

✢ ✢ ✢

Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі!..

*«І ўсё ж такі дойдзем!..», 1992*

✢ ✢ ✢

Каб песню, вартую народа,
На поўны голас шчыра спець —
Што трэба творцу? Вельмі многа!
Радзіму ў сэрцы трэба мець!

*«Родныя дзеці», 1972–1984*

✢ ✢ ✢

Трайны ён круг, ды недзялімы:
Бо сёння, як ні паглядзім —
А лёс Дзяцей, і лёс Радзімы,
І лёс Планеты — лёс адзін.

*«Родныя дзеці», 1972–1984*

✢ ✢ ✢

І не чытаўшы мудрых кніжак,
Спасцігла ісціну сама:
Няма Радзімы ў злыдняў хіжых
І Маці ў нелюдзяў — няма.

*«Родныя дзеці», 1972–1984*

✢ ✢ ✢

Для нас — прыроды болей мілай,
Чым беларуская, няма.
Яна ж усіх нас надзяліла
Душой такою, як сама!

*«Родныя дзеці», 1972–1984*

✢ ✢ ✢

Дык як жа будзем жыць,
Мой мілы пане-браце?
Ці так, як набяжыць,
Ці — спадарамі ў хаце?

*«Дык як жа будзем жыць?», 1991*

✣ ✣ ✣

Таварыш! Хто б ні быў ты родам,
Якой ні быў бы ты крыві —
Ты лёс звязаў з маім народам,
Таму — як сын яго жыві!

*«Зварот», 1993*

✣ ✣ ✣

Як жа выйсці, пытаеш ты, з гэтай бяды?
З гэтай скрухі глухой, беспрасветнай?
Шлях адзін: не ступай у чужыя сляды
На бацькоўскай зямлі запаветнай.

*«Як бяздольнік-жабрак...», 1997*

✣ ✣ ✣

Таму і дагэтуль на цвердзі стаю
І рад, калі скажа мне поціск далоні:
«Трымайся, таварыш! На родным загоне
Яшчэ ты не скончыў работу сваю!..»

*«Тады, як зямная канчалася цвердзь...», 1996*

✣ ✣ ✣

Цяпер ўжо нам, унукам і дзецям,
Прадоўжыць работу іх давядзецца.
Бо нельга інакш! Бо знаем даўно мы:
Страшны народ, калі ён свядомы.

*«За горла “свядомых”!», 2001*

✣ ✣ ✣

Нахадзіліся па струнцы.
Паслужылі лайдакам.

Трэба верыць творчай думцы
І мазолістым рукам.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Што нам трэба? Злезці з клячы,
На якой яшчэ сядзім.
Бо дзяржава — не наглядчык
Над народам над сваім.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Я не бачу, хто запыніць,
Хто стрымае ў нас распад.
Нібы сталі ўсе сляпымі:
Гэй, наперад — гэй, назад!

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Каб жыццё ўпустую не пралахаць,
Кожны мусіць нейкі храм свой мець,
Дзе не хочацца ні гаварыць, ні пець —
Толькі моўчкі, безгалоса плакаць.

*«Тут не хочацца ні гаварыць, ні пець...», 1970*

✢ ✢ ✢

Чужое, разбойнае, хамскае
Гвалтуе, дратуе, таўчэ,
А роднае, свойскае, наскае
Бязмоўна ярмо валачэ.

*«Ці ачнёмся?», 1991*

✣ ✣ ✣

Спасціг нарэшце, ліха матары,
У чым жа сутнасць дэмакратыі:
У тым, што можа хам хаміць
І прабачэння не прасіць.

*«Нарэшце спасціг», 1989*

✣ ✣ ✣

О дружа-браце, не рабі дэвізам,
Але запомні — гэта варта знаць:
У пушчы птах лясны лятае нізам,
Каб крылле аб сукі не паламаць.

*«У пушчы птах лясны лятае нізам...», 1970*

✣ ✣ ✣

А мова — вось: жыве, жывая!
І набірае сілу-моц.
І нас — душу з душой — яднае,
Як берагі надзейны мост.

*«Зварот», 1993*

✣ ✣ ✣

А сваё? А хто мы самі?
Што мы — з роспачы-бяды
Паўтыкаліся насамі
У суседскія зады?

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

Паколькі ты зямляк мой родам,
Пачну з цябе, браток Прэм'ер:

Чаму ты ў гутарках з народам
На роднай мове ні гер-гер?

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Што мы сёння з ёю робім?
Пачытайце «вольны друк».
Камісар яе не ўгробіў —
Дык угробіць паўлітрук.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Колькі злосці з іх папёрла!
Як то кажуць: проста жуць!
Толькі... скулу ім у горла,
А не мову праглынуць.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

А грызе! За словам — слова!
Колькі ж будзем мы трываць?
Мова — нацыі аснова.
Мову трэба ратаваць!..

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Калі ёсць народ, то мова
Быць павінна, бо яна
Ёсць яго самаахова,
Без чаго яму — хана.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Што ж да мовы нашай роднай —
То ў мяне крычыць душа.
Хто прызнаў яе нягоднай?
На сябе зірнем спярша.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Прыміце, сябры дарагія,
Эпічную споведзь маю.
«Ёсць мова — народ не загіне!»
На гэтым стаяў і стаю.
І праўды вышэйшай, чым гэта,
Няма на зямлі для паэта.

*Яўгену і Ніне Стасевічам*
*на кнізе «Родныя дзеці», 31.01.2011*

✢ ✢ ✢

Вось ён з вамі развітаўся, а не ведаеце вы,
Што душа зіхцела россыпамі дум, як луг расою:
Мог бы шчодра падзяліцца — а забраў усё
з сабою...
Гаварыце з чалавекам, покуль ён між вас, жывы.

*«Гаварыце з чалавекам, покуль ён між вас, жывы...», 1974*

✢ ✢ ✢

Ісціна, адвечная, як свет:
Шчасце ходзіць толькі ў пары з горам.
За надзеяй — боль зняверу ўслед.
За пашанай — прыніжэння сорам.
За святлом знаходкі — горыч страты,
За агнём любві — разлукі снег.

За абдымкамі — падножка здрады...
Ісціна, адвечная, як свет.

*«Ісціна, адвечная, як свет...», 1970*

✢ ✢ ✢

Няроўная доля паэтам даецца,
Хаця справядліва ўсіх судзіць народ:
Хто творамі ў памяці жыць застаецца,
А хто ў анекдотах — героем прыгод.

*«Кожнаму сваё», 1958–1959*

✢ ✢ ✢

Вячорка, цэнячы дасціпнасць,
З усмешкай рэпліку прыняў:
Сапраўдны гумар — як гасціннасць,
У ім асновай — дабрыня.

*«Родныя дзеці», 1972–1984*

✢ ✢ ✢

Кажаш, што ты — беларускі паэт?
Дык, а чаму ты, брат, гэтакі тлусты?
Сёння паэт — вунь: у скуры шкілет.
Які ж ты паэт? І які беларус ты?

*«Кажаш, што ты...», 2012*

✢ ✢ ✢

Да непрыстойнасці нізка — і буйна, і дробна —
Хлусяць і хлусяць, каб подлую сутнасць
прыкрыць.
Быццам не знаюць, на што гэта ў свеце падобна —
Моваю прышлых з народам сваім гаварыць.

*«Быццам не знаюць», 2011–2012*

✣ ✣ ✣

Верш не павінен быць як нейкі хлам.
Радкоў сяк-так скілзаных — не цярплю.
Я ў верш хачу заходзіць, як у храм —
Як вернік у касцёл або ў царкву.

*«Як вернік у храм», 2012*

✣ ✣ ✣

Барані нас, Божа правы,
Да скон веку барані
Ад апекі той дзяржавы,
Дзе за Бога — дух хлусні.

Дзе абман цвіце-красуе
І ў махровай той красе —
Жулік жуліку пасуе,
Жулік жуліка пасе.

*«Ачмурэнне», 1989–1992*

✣ ✣ ✣

Ты без Бога не Расея,
І без мошчаў ты — не ты.
Вымеш тога з маўзалея —
Іншы знойдзецца святы.

*«Ачмурэнне», 1989–1992*

✣ ✣ ✣

Каб ісці наперад цвёрда —
Дзе той «перад», трэба знаць.
Дзе нам брама ў рай адпёрта,
Да якой рукой падаць.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

Пэўна й простых смертных масу
Можна ў смуту з тропу збіць.
Толькі д'яблаву грымасу
Пад Хрыста не падрабіць!

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

Дзе ні ступіш — глей разлезлы.
Дзе ні глянь — шуміць шума.
Дэмакратаў — процьма, безліч!
Дэмакратыі ж — няма!

*«Ачмурэнне», 1989–1992*

✣ ✣ ✣

Верхаводзяць злыдні-хлусы,
Ім у рот глядзяць сляпцы, —
І праз гэта Беларусі
Будуць кранты і капцы.

*«Ачмурэнне», 1989–1992*

✣ ✣ ✣

Не падайце ж духам, хлопцы!
Адкіньце суздром сумнеў!
І гнеў не тапіце ў стопцы —
У сталь загартуйце гнеў!

*«Не падайце духам, хлопцы!», 1995*

✣ ✣ ✣

Я не знаю, хто мы. Толькі
Не пытай пра гэта ўрад,
Ён і смаліць з дубальтоўкі:
Раз — наперад, раз — назад.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

На урад надзей нямнога
На парламент — яшчэ менш.
Там, забыўшыся на Бога,
Гоняць бурбалкі ў бязмеж.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

Я так і здырджуся няўмекам!
Але да сэрца не бяру:
Мне б толькі знаць, што чалавекам,
Што чалавекам я памру!

*«Як я вучыўся жыць», 1972–1973*

✣ ✣ ✣

Ну, што ж, у век Гіены і Шакала,
Дзе і Радзіму аддаюць за штоф,
Не стацца юдам — гэта ўжо нямала,
І небу дзякаваць мне ёсць за што.

*«Крыху споведзі», 1996*

✣ ✣ ✣

Крануты Вашаю падтрымкай шчыраю,
Усё ж скажу, каб не было няўцям:

Я — той з прастрэленым крылом бацян,
Што ўжо ніколі не дагоніць выраю...

*«Я вам жадаю шчасця чалавечага!..», 1989*

✢ ✢ ✢

Вось бачыце, сябры, і ўвесь згрыбелы —
Гляджу з усмешкаю на свет на белы.
Ну, а на брэх сабак, якім зайздросна,
Яшчэ магу і агрызнуцца злосна.

*Яўгену і Ніне Стасевічам*
*на кнізе «Дзверы ў гісторыю», 2010*

✢ ✢ ✢

Ведае родная, ведае: тут,
Тут я патрэбен яшчэ!..
Ну, а туды я паспею на суд.
Хто ж бо ад Бога ўцячэ?..

*«Сон», 1992*

✢ ✢ ✢

Калі, хлусня, ты расшышэла так?
За што ты стала нам усім пракляццем?
Убоства духу лічым мы багаццем,
А боскі дар пускаем за пятак.

*«Вялікая найшла на нас хлусня...», 1992–1993*

✢ ✢ ✢

Не разумееце? А што ж тут
Не ясна? Што тут разумець?
Калі народ не знае кошту
Свайго жыцця — народу смерць.

*«Браты! Пачуйце! Каб бясслаўна...», 2010*

✢ ✢ ✢

Што праўда,
То праўда —
Даўно гэта стала:
Віхляння багата,
А годнасці мала.

*«Пра нашу годнасць», 1989*

✢ ✢ ✢

Ах, Расія ты, Расея,
Ці не чула ў гамане:
«Хто бяздумна вецер сее —
Буру страшную пажне!»?

*«Ачмурэнне», 1989–1992*

✢ ✢ ✢

Лакейства плодзячы са смакам,
Яны не знаюць аднаго:
Хто хлеб дае чужым сабакам —
Свае забрэшуць на таго!

*«Родныя дзеці», 1972–1984*

✢ ✢ ✢

Скажыце ж ім, хлопцы, дый голасна,
Што дурняў даўно ўжо няма.
Хто волю здабыў сабе годнасна —
Давеку не прыме ярма!

*«Скажыце ім, хлопцы», 1992*

✣ ✣ ✣

Да чаго ж у нас пагрузлі
У халуйскі глей чыны!
Адраджэння Беларусі
Горш баяцца, як чумы!

*«Ачмурэнне», 1989–1992*

✣ ✣ ✣

Будзе вам і газ, і нафта —
Толькі здайце ўласны дом!
Не! Ну гэта ўжо занадта!
Гэта ж... горай за пагром.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

Беларусь уся ў «чарноблі»!
І зямля ўся і вада!
А яны нас — у аглоблі!
У хамут нас! Уй, бяда!

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

Я глядзеў, як на калеку,
На суседа-бедака.
Божа! Колькі ў чалавеку
І раба, і жабрака!

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Як па-мойму, дык мараль мы
Загубілі ўжо даўно.
Блуд паўсюль ідзе павальны!
І прасвету не відно.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Блуд ідзе пад ручкі з п’янствам,
П’янства — побач з крадзяжом.
А крадзеж — народ няшчасны
Пакрывае плацяжом.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

А бяромся за рэформу
Усяго і ўся — суздром!
Каб аж даць палякам фору —
Калі ног не задзяром!

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Як жыць, калі наўкола,
Куды ні кінь вачыма, —
Як наркаман на ўколах,
Трымаецца Айчына.

*«У ноч пакут», 1997*

✢ ✢ ✢

Я не знаю, што ў нас будзе
Ні праз месяц, ні праз год.
Абясхрэсціліся людзі.
Абязбожыўся народ.

*«Я не знаю, што ў нас будзе...», 1990*

✢ ✢ ✢

Ну а стане спакойна зусім.
Так спакойна, што ўпоўначы выйдзеш
І ў марозную зорную сінь
Ты, як воўк адзінокі, завыеш.

*«Вось і стала табе спакайней...», 1990*

✢ ✢ ✢

І чую я голас, падобны
На голас матулі маёй:
«Будзь дужы, будзь мужны і добры,
Не бойся натхнёных хлуснёй!»

*«Каменні ляцяць на дарогу...», 1985*

✢ ✢ ✢

— І ўсё? — спынілася Мар'яна.
— І ўсё!.. — А творчасць? А тварыць?
— Тварыць — штодзённа, апантана —
Для чалавека значыць — жыць...

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

* * *

І ўпершыню падумаў: шчасця
На свеце большага няма,
Чым да людской душы дапасці,
Каб засвяцілася яна.

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

* * *

Ці мала што ў жыцці бывае!
Якіх вузлоў не вяжа лёс!
Няшчасны той, хто ўсё прымае
Да сэрца блізка і ўсур'ёз.

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

* * *

Рабі дабро! Хоць нават коштам
Апошніх сіл, апошніх мук.
І не пытай: каму? Завошта?
Рабі без просьбаў і прынук.

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

* * *

Такі закон прыроды, маці,
І ў ім ёсць сэнсу глыбіня:
Раней, чым першы смех дзіцяці,
Ты доўга чуеш плач штодня.

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

✢ ✢ ✢

І колькі ты жывеш на свеце —
Спакон вякоў, здавён-даўна —
Ты сэрцам там, дзе плачуць дзеці,
Бо дзеці слёз не льюць дарма.

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

✢ ✢ ✢

Тут справа, знаў ён, не ў капрызах
Яго натуры. Справа ў тым,
Што калі нават попел-прысак
Астыў — нашто капацца ў ім.

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

✢ ✢ ✢

Кажуць, запраданцаў
Шмат сярод іранцаў —
Служаць за аб'едкі са стала.
Ды такіх, як нашы,
Зноскаў-запраданцаў
Не сцярпеў бы іх аятала.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Кажуць, шмат прыдуркаў
Ёсць на землях туркаў —
Шкода ім асманскага ярма.
Ды такіх, як нашы,
Ёлупняў-прыдуркаў
І сярод затурканых няма.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

Кажуць, пустаплясаў
Шмат у папуасаў —
Імпартныя цацкі ім дай-дай.
Ды такіх, як нашы,
Блазнаў-пустаплясаў
Не знайсці і ў Афрыцы, бадай.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

Кажуць, ахламонаў
Бачылі ў манголаў, —
Гэта беспардонная хлусня,
Бо такіх, як нашы,
Цюхцяў-ахламонаў
Там кідаюць вобземлю з каня.

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

Кажуць асталопаў
Шмат у эфіопаў, —
Ідалаў там ставяць, сапраўды.
Дый яны смяюцца
З нашых асталопаў:
Эфіоп іх, кажуць, растуды!

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Слухайце, манголы,
Туркі, эфіопы:
Як вы дапусцілі-давялі,
Каб у самым цэнтры
Матухны-Еўропы
Гэтак не па-людску мы жылі?..

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✢ ✢ ✢

Бо хлеб — адвеку так было —
Святы для нас бясконца.
Шануйце хлеб: у ім цяпло
Душы, зямлі і сонца!

*«Прамова цёткі Матроны з высокай трыбуны», 1971–1973*

✢ ✢ ✢

Зманіў суседу — кепска, што й казаць.
Схлусіў каханай — і любоў азябла.
Зняверыў брата — цяжка дараваць.
Не меншы грэх — калі зняверыў сябра.
І ўсе ж душу не позна ратаваць —
Ты не зусім яшчэ ва ўладзе д'ябла.
Калі ж ты Маці ашукаў — тады:
Тады ўжо ўсё. Далей — няма куды.

*«Зманіў суседу — кепска, што й казаць...», 1975–1995*

✣ ✣ ✣

Гады ж баляць, гады цяжэюць.
А балючэй за ўсякі боль —
Як дзеці любыя чужэюць
І варагуюць між сабой.

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

✣ ✣ ✣

Калі ён не блазен, а паэт —
То ў чарзе за ласкай млець не будзе.
Ласка праўдзе засланяе свет,
Ад яго ж чакаюць праўды людзі.

*«Кажуць: недзе ласкай абышлі...», 1974*

✣ ✣ ✣

Народ умее сумяшчацца,
Народ душою не азыз.
Не сумяшчаецца мяшчанства —
З капрызам дробязным капрыз!

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

✣ ✣ ✣

На залатым вяселлі дзеда
Унук спытаў яго пачціва:
«Скажы, што мець на свеце трэба,
Каб чуцца так, як ты, шчасліва?»
І адказаў дзед гучна, звонка:
«Няма нічога лепш на свеце,
Як сэрцам праведная жонка
І з Богам выраслыя дзеці!»

*«Адказ шчасліўца», 2007*

✣ ✣ ✣

І як прыпомню — вечна так выходзіла,
Што пагаджаўся з ёю недарма.
Усім нам слухацца б жанок не шкодзіла.
Дзе баба з розумам — бяды няма.

*«Формула іржавіны», 1971–1973*

✣ ✣ ✣

Усё — адносна, ўсё — у дыялектыцы.
І так адвеку на зямлі было:
Тым самым лечацца, чым і калечацца,
Бо ў зле дабро ёсць, а ў дабры ёсць зло!..

*«Формула іржавіны», 1971–1973*

✣ ✣ ✣

Вышэй за справядлівасць цэняць сувязі!
І верац перш за ўсе ў іх сілу-моц.
«Не маеш сувязей — нідзе не сунешся!»
Вось што свідруе іх душу і мозг.

*«Формула іржавіны», 1971–1973*

✣ ✣ ✣

Вось так, шаноўны Дрозд! Не трэба крайнасцей.
Дзе крайнасць — там таксама ўжо мана.
Паміж маральнасцю і амаральнасцю
На свеце рэзкае мяжы няма.

*«Формула іржавіны», 1971–1973*

✣ ✣ ✣

Я разумею, гэта справа тонкая;
Тут Карпаўна магла б дапамагчы.
Пачцівы муж усё ўзгадняе з жонкаю —
Казаў бы той, не ўдзень, дык уначы.

*«Формула іржавіны», 1971–1973*

✣ ✣ ✣

Так, людзі на жыццё глядзяць па-рознаму:
Адзін праз сэрца, а другі праз пуп.
Казаў бы той, тут харчу шмат для роздуму,
Не дзіва, што ў мяне аж лоб распух.

*«Формула іржавіны», 1971–1973*

✣ ✣ ✣

Як засведчылі японцы
(А за іх няма мудрэй):
Калі ты габрэй па жонцы —
Гэта болей, чым габрэй.

*«Сказ пра лігу чыстакроўных», 1998–1999*

✣ ✣ ✣

Цяпер дрыжу, каб не загнуцца,
І ўсім кажу, стары піяк:
«Зусім не штука уцягнуцца.
Задача — выцягнуцца як?»

*«Закінем лыч», 1972*

✣ ✣ ✣

Не хваліся напісанай драмаю,
Хоць прынята ў тэатрах сямі:
Знаем, драму вялікую самую
Ты пакуль што стварыў у сям'і.

*«Знаёмаму драматургу», 1958–1959*

✣ ✣ ✣

Хоць не ўрач — ад гэтай кары Божай
Я збавенне ведаю, — чытай:
Не лічы, браток, чужыя грошы,
Дык здаровы будзеш, як бугай!

*«Адкуль нездароўе», 1983*

✣ ✣ ✣

Я кліч напісаў на фанеры
І вынес яго на прэзент:
«Прымайце, начальнікі, меры —
Краіна співаецца ўшчэнт!»

*«Скарга пацярпелага», 2001*

✣ ✣ ✣

Вунь і лозунгі, дарэчы,
У руках у секс-байца:
«Аскацінімся дарэшты!
Абыдлеем да канца».

*«Жыць па-людску», 1991*

\+ \+ \+

Раз па-людску жыць абрыдла —
Быдлам чуйся без граха.
Толькі помні, што на быдла
Ёсць бізун у пастуха.

*«Жыць па-людску», 1991*

\+ \+ \+

Мой сусед наведаў Кракаў —
Дык увесь душой размяк.
Цэлы дзень мне ў світку плакаў:
«І чаму я не паляк?»

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

\+ \+ \+

Дажыліся — напаследак!
І папраўдзе: чым не рай?
Хочаш — так, а хочаш — гэтак,
Як захочаш — памірай!

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

\+ \+ \+

Хоць закрычы: кухарцы — брава!
Якія скабкі! А кулеш!
Ну, смаката! З такою стравай
І рашпіль нават праглынеш!..

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

✢ ✢ ✢

Гаворка тут ідзе не пра душу:
Душы салжэш, а вось кішцы — ніколі.
Таварыш рэдактар, як айца, прашу:
Пазыч траяк, калі не маеш болей.

*«Рэктару ўніверсітэта ад студэнта:
паэта Ніла Гілевіча заява», 1951*

✢ ✢ ✢

Не знаю, лёс тут неабачны?
Ці так само пайшло здаўна?
Найлепшы яблык — самы смачны
І самы спелы — есць свіння!..

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

✢ ✢ ✢

І дурню ясна, дзе прычыны:
Не трэба хіміяй фарсіць,
А трэба з лёну ды з аўчыны
На целе вопратку насіць!..

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

✢ ✢ ✢

Або такая малюпашка,
Што меншай нельга і ўявіць,
Што і ў пасцелі нават цяжка
Пад коўдрай граблямі злавіць!

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

✣ ✣ ✣

Не сагрэе нас Еўропа,
А тым болей — ЗША...
Так не будзе, каб разёпа —
Раз! — і паняй зажыла!..

*«Гэй, наперад! Гэй, назад!», 1993*

✣ ✣ ✣

Канешне, гакнуў падхадзяшча,
Але не ў тым была бяда,
А ў тым, што быў ад ранку нашча,
А нашча хмеліць і вада.

*«Родныя дзеці», 1972–1980*

✣ ✣ ✣

Гляджу на карак — смех і гора,
Не разумею ані-ні:
Навошта гэтая падпора
Пустой, як колба, мазгаўні?

*«Неадпаведнасць», 1961*

✣ ✣ ✣

Сівы дзядок —
Не вораг, не злачынца —
Зірнуў на цэны —
І не мог стрываць:
«Пры гэтым ладзе —
Бог не дай лячыцца!
Пры гэтым ладзе толькі паміраць!»

*«У аптэцы», 1998*

✣ ✣ ✣

А ў гэтым гамузе вялізным
Мяне не ўбачаць і затруць,
Ды як жа будзе з камунізмам,
Калі ўсе грады пабяруць?!

*«Сказ пра Лысую гару», 1975*

✣ ✣ ✣

Азлоблены век забівае
Найлепшых сяброў без пары.
Замены ж сябрам не бывае,
Навек нам даюцца сябры.

*«Памяці А. Германава», 1983*

✣ ✣ ✣

— Ад страху там трасуцца ўсе —
І людзь, і нелюдзь самы ўвішны.
Найбольшы страх таго трасе,
Хто наганяе страх на іншых.

*«Пацвярджэнне з удакладненнем», 2009*

✣ ✣ ✣

Любоў і страх —
Адвеку розны
Трымаюць след між палыну:
Любоў глядзіць на край свой родны,
А страх — глядзіць на Калыму...

*«Каму і з кім не па дарозе?», 1988*

✣ ✣ ✣

Сумленню з подласцю ў суполцы
Ганебна мераць шлях стары:
Сумленне рвецца ўвысь, да сонца,
А подласць — шчэрыцца ў нары.

*«Каму і з кім не па дарозе?», 1988*

✣ ✣ ✣

Рука ў руку з хлуснёю
Праўда
Не пойдзе побач — хоць звяжы!
Бо праўда свет кіруе ў заўтра,
Хлусня — да гібельнай мяжы.

*«Каму і з кім не па дарозе?», 1988*

✣ ✣ ✣

Куды ж і з кім па безгалоўю
Ісці Табе — праз буралом?
З любоўю, братачка, з любоўю!
З сумленнем,
З праўдай
І з дабром!

*«Каму і з кім не па дарозе?», 1988*

## Афарызмы персанажа з рамана «Родныя дзеці», дасціпніка і трохі дэмагога Віцькі Шкута

✢

Пытаю: «Можа быць, заглянем?
Прапусцім сціпла па адной?»
«Народ не мокне ў рэстаране!
Народ сілкуецца ў чайной!»

✢

А ён сказаў: — Давацца дзіву
Няма чаго. Зірні-паглянь:
Народ не носіць габардзіну,
Народ апрануты ў паркаль!

✢

Ды зноў Вінцусь у звыклай форме
Крутнуў нязменны свой педаль:
— Народ не слухае сімфоній!
Яму «Лявоніху» падай!..

✢

І тут Вінцусь зусім спакойна
Уткнуў тры грошыкі свае:
— Народ цалуецца прыстойна:
Ён ляпу ляпай не ірве!..

✣

Пачуе: «Волгай» трызніць хтосьці —
Ён тут жа рэпліку яму:
— Народ ганяе «Запарожца»!
Народу «Волга» ні к чаму!

✣

Убачыць: грушу абірае
Сусед — ахвяра на чарзе:
— Народ пладоў не абразае!
Народ са скуркаю грызе!

✣

— Ты не зважай, што трохі шлакам
Ці дрывясінаю смярдзіць.
Народ не гоніцца за смакам!
Народ на градусы глядзіць!

✣

— Крышталем цёмнасць даканалі.
Між іншым, мілыя мае:
Народ куляе стаканамі,
Народ кілішкамі не п’е!..

✣

Прывыкшы ў рожкі з сваякамі,
Ён тут жа вытыркнуўся ўвесь:
— Народ кускі бярэ рукамі!
Народ відэльцамі не есць!

✢

І тут Вінцусь «уторкнуў шпільку» —
Прытворным тонам мудраца:
— Народ усмак цярэбіць кільку!
Народ не просіць селядца!

✢

І зноў Вінцусь — ну дай ты рады! —
Гукнуў — аж рэха на дварэ:
Народ любому грыбу рады!
Народ і порхаўкі бярэ!

✢

Вінцусь нагнуўся да суседкі,
Шапнуў: «Во злосны! Як шашок!
А знаеш ты, чаму ён гэткі?
Што сэрца блізка ад кішок!..»

✢ ✢ ✢

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі, наеўшыся ў адвал,
Сёй-той прыкінуў, што панчоха —
Зусім не кепскі ідэал.

*«Сказ пра Лысую гару», 1975*

✢ ✢ ✢

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі гадаў інтэлігент:
Чаму стандартны выпівоха
Убранзавеў, як манумент.

*«Сказ пра Лысую гару», 1975*

✢ ✢ ✢

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі, засвоіўшы «сю-сю»,
Дыпламаваная цыцоха
За «модай» гналася ваўсю.

*«Сказ пра Лысую гару», 1975*

✢ ✢ ✢

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі без культаўскіх гужоў
Настала ў думках «суматоха» —
І сніўся Модэлю Яжоў!

*«Сказ пра Лысую гару», 1975*

✣ ✣ ✣

А чытачам замест «бывайце»,
Як і раней, я гавару:
Чытайце, з розумам чытайце
Мой сказ пра Лысую гару!

*«Сказ пра Лысую гару», 1975*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ШЧАСЦЕ ХОДЗІЦЬ ТОЛЬКІ Ў ПАРЫ З ГОРАМ
*Афарыстычныя радкі з паэтычных твораў*
*Ніла Гілевіча*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 3.09.2014.
Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 2,1. Ул.-выд. арк. 1,27.
Наклад 150 асобнікаў. Зак. 492.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб ДРВВРДВ № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
e-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/218 ад 14.04.14.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.